№ 73. 24 кастрычніка 1916 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# ГОМАН

БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на 1/2 году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацroutine і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

# Констанца здабыта.

## 23 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* З непаменшэнай сілай трывала ўчора далей аграмадная артылерыйская бітва на паўночным беразі Соммы. Ад пасьля-абеду да познай ночы між Лесар і Лебэф атакавалі англічане, а да Ранкур—французы. Нашая адважная пяхота, з'добрай падмогай артылерыі і лятуноў, крывава адбілаў сваіх зруйнаваных акопах усе штурмы. Толькі на паўночным заходзі ад Сайі французы ў часі начнога штурму ўварваліся на вузкі астатак акопоў пярэдняй лініі. На палудні ад Соммы нашае наступленьне ў паўночнай часьці леса Амброс дайшло удачы. Сягоньня ў начы, не прымушэные да гэтаго ворагамі, а спаўняючы дадзены загад, наша лінія ўзята назад на ўсход ад леса на загадзя прыгатаваные пазыціі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Між Аргоннамі і Вэврам быў сільны агонь артылерыі.

---

22 непрыяцельскіе лятуны збіты атакай ці зашчытным агнём. 11 с-паміж іх ляжаць у нашых лініях. Бэлькэ збіў сваіх 37 і 38 ворагоў.

---

Ворагі абкідалі бомбамі Мэц і іншые мейсцы ў Лётарынгіі. Забіты 5 цывільных асоб.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Апрыч часоваго вострагo агня на заходзі ад Луцка і аканчацельнаго выбіцьця расейцоў з акопоў на заходнім беразі Нараёўкі,—без значчых прыпадкоў.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* Агульнае палажэньне без перамен. У прахозі Прэдэаль мы ўзялі ў палон 560 румыноў, у тым ліку 6 афіцэроў.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт Макензэна:* Ня гледзячы на ліўшый дождж і размокшы грунт, незмардавана і шыбка гонючыся за ворагамі, злучэные войскі ў Добруджы, разбіваючы апор, перайшлі далёка за чыгунку на ўсходзі ад Мурфатляр-Роўна церав 8 тыднёў пасьля аб'яўленьня Румыніі вайны, Констанца занята боўгарскімі і нямецкімі войскам. На левым крыле мы падбліжаемся да Чэрнаводы.

Марскі лятун сцусьціўся ззаду за адступаўшымі ворагамі, зніштожыў два аэропланы і вярнуўся назад.

*Македонскі фронт:* У закруце Чэрнай атака нямецкіх і боўгарскіх войск прымусіла ворагоў толькі бараніцпа.

---

## З апошніх дзён.

### Убіуство аустрыяцкаго міністра-прэзыдэнта.

ВЕНА. Міністэр - прэзыдэнт Штюрк забіт у гасьцініцы ў часі абеду. Убіўца—радыкальны соцыалістычны пісьменнік, Фрыдрык Адлер, выдавец журнала «Kampf» («Змаганьне»),—падыйшоў да абедаўшаго міністра-прэзыдэнта і забіў яго трэма стрэламі з рэвольвэра. Ен надумаў зрабіць гэтае страшэннае дзела, трэба думаць, затым, што лічыў забітаго міністра-прэзыдэнта Штюрка вінаватым у тым, што у Аўстрыі за ўвесь час вайны не склікалі парляманту.

Усе газэты выказываюць адразу да гэтаго праступленьня і даводзяць, што сваім пастушкам праступнік толькі пашкодзіў тэй справе, за каторую ваеваў.

---

## Нямецкіе апавешчэньня.

**20.X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Пад дажджом—вострая артылерыйская бітва. Мы адабралі ад англічан штурмам большую часць аставаўшыхся ешчэ ў іх руках ад 17 кастрычніка акопоў на заходзі ад дарогі Окур Ляббэ—Лесар. Вечэрам адбіты наступленьня англіцкіх атрадоў на поўначы ад Курсэлет і на ўсходзі ад Лесар.

Дадаткова даносяць, што ў часе апошняго вялікаго штурму англічане карысталі са сваіх знаменітых панцырных самаходоў. Тры з іх ляжаць разбітые агнём артылерыі перад нашымі лініямі.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Перад здабытымі намі пазыціямі на поўначы ад Сенявкі, на Стоходзі, адбіты некалькі расейскіх штурмоў са стратамі ў ворагоў. На заходнім беразі Нараёўкі, на палудзенным заходзі ад Сьвісьцельнікоў, нямецкіе батальёны здабылі штурмам важные расейскіе горные пазыціі. Ворагі утрацілі тут 14 афіцэроў, 2050 салдатоў і 11 кулемётоў.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* У палудзеннай часьці засыпаных сьнегам лясістых Карпатоў ворагі скінуты з вяршыны Русулюі. На Сяміградзкіх граничных хрыбтах бітвы трываюць далей.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* На фронці ў Добруджы баевая работа узмацавалася.

*Македонскі фронт:* Пасьля пачатковых удач атака сэрбоў у закруце Чэрнай спынена.

**21.X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На Сомме далей трывае вострая агнявая бітва. Між Лесар і Окур Ляббэ англіцкіе штурмы адбіты штыкамі. Наступленьня французоў на дарозі Сайі—Ранкур зломлены перад нашымі загарадзямі. Нашы баевые лятучые эскадры ў чысьленых бітвах на паветры баранілі нашых лятуноў-нагляднчыкоў. Збіты 12 самалётоў ворагоў; 4 з іх ляжаць за нашымі лініямі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Востры артылерыйскі агонь на абодвых берагох Маасу.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* У дарэмных, багатых стратамі штурмах расейскіе батальёны прабавалі адабраць назад здабытые намі на заходнім беразі Стохода акопы. Пры Нараёўцы штурмам нямецкіх войск здабыты ізноў расейскіе пазыціі на паўночным заходзі ад Скоморохоў. Дарэмные контратакі толькі павялічылі страты у ворагоў. 5 афіцэроў, 150 салдатоў і 7 кулемётоў нам ужо ўчора ўдалося адвясьці назад з занятых намі пазыцій.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* На Сяміградзкай граніцы пры сьнежнай і марозьлівай пагодзі далей ідуць удачные для нас бітвы ў лясох і гарах. Пры гэтым у румыноў страты вельмі цяжкіе.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Бітвы ў Добруджы развіваліся удачна для нас. Злучэнае нямецкае, боўгарскае і турэцкае войско ў розных пунктах уварвалося на глаўные пазыціі ворагоў на лініі Расова (на Дунаю)—Агемляр—Тузла і пасьля вострых бітв здабыло Тузлу, вяршыны на поўначы ад Топраіссар, на поўначы ад Кокаргіа і на паўночным заходзі ад Мульцыова. Пры гэтым мы ўзялі ў палон каля 3.000 расейцоў, між імі палкоўніка і некалькі сот румыноў, здабылі 22 кулемёты і 1 мінамёт. Нямецкіе лятучые эскадры прынялі жывое учасьце ў гэтых бітвах.

*Македонскі фронт:* без перамен.

**22.X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Баталія на Сомме ідзе востра далей. З абодвых бакоў пускаюцца ў ход усе артылерыйскіе сілы, асабліва на паўночным беразі. Барабанным агнём на нашы акопы і ззаду за імі былі падгатоўлены чысьленые англіцкіе штурмы між Анкр і Курсэлет і наабапол Гэдэкур. Пасьля неміласэрнаго змарнаваньня массы людзей, ворагам урэшці ўдалося пасунуцца ўпярод у старану Гранкур-Піс. Пры Гэдэкур яны адбіты. Вострые бітвы пры Сайі былі для французоў неудачны. На палудні ад Соммы мы контратакай адваевалі назад утрачэные раней акопы між Б'яш і Лямэзонэт. Мы ўзялі ў палон 3

Гл. тэлеграмы на 4 страніцы.

